ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 16 (2595)
ПЯТНІЦА
21
красавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## *22-га красавіка— 102-я гадавіна з дня нараджэння У. І. Леніна*



Канстанцін ВАНШЭНКІН

## ЛЕНІНСКІ ПАРТРЭТ

Няма ў Расіі, пэўна, дома,
Дзе б не знаходзіўся партрэт:
Прыйшоў ён, блізкі і знаёмы,
Яшчэ ў далёкі, ранні свет.

Жывём,
і кожны з нас сагрэты
На ўсе гады свае і дні.
І зноў стаім перад партрэтам
Сярод глыбокай цішыні.

Так толькі дзеці — кроў жывая
Даўно загінуўшых бацькоў —
У родным твары адкрываюць
Святло нябачаных штрыхоў.

З рускай пераклала
Эдзі АГНЯЦВЕТ.

Андрыс ВЕЯН

## МОЙ ЛЕНІН

*«Ён кепку зняў імкліваю рукой...»*

Таксама мужыкі — сябры мае, браты —
Пасля касьбы, нялёгкае работы,
Сціралі кепкай з твару кроплі поту,
Камячылі яе ў руках, зусім, як ты.

«Ён кепку зняў імкліваю рукой...»—
Стралка латышскага я ведаў словы
І адчуваў: ты блізкі, свой, вясковы,
Хоць не жывеш у вёсачцы малой.

Калі на шыбах промні ўспыхвалі
раптоўна, —
Здавалася,
ты запаліў святло ў хаціне
цёмнай!
Ты падымаў нас з беднасці балотнай
І клікаў на бальшак,
І сіл хапіла ў мужыкоў гаротных.

Ты проста, як сваяк,
Паклаў далоні ім на плечы,
Глядзеў, глядзеў на іх:
Тады ў вачах тваіх
Змясціўся свет
і смуткаў чалавечых,
І ўсіх надзей вялікіх, чалавечых.

Яшчэ маленькі хлопчык,
адчуваў я гэта!
Сам уяўляў цябе такім,
Яшчэ не бачыўшы тваёго партрэта.

З латышскай пераклала
Эдзі АГНЯЦВЕТ.

Макс ЦЫМЕРЫНГ

## *ЛЕНІН СЛУХАЕ «АПАСІЯНАТУ»*

*«Я не ведаю нічога прыгажэйшага за «Апасіянату» — слухаў бы яе кожны дзень. Цудоўная, незямная музыка. Заўсёды думаю з радасцю, магчыма — з наіўнай: — Глядзіце, якія цуды маглі стварыць людзі!»*

*(Ленін — Горкаму).*

Абняўшы левай правую руку,
адвольны ў позе, сам-насам з сабою,
ён слухае. Бародка ў кулачку
і задуменне ў позірку з журбою.

Акорды то рыдаюць, то пяюць,
а ён нібы ў лунанні мар і мрояў,
і толькі бровы ўзлётам выдаюць
напружанасць душэўнага настрою,
што затаіў сакратаўскі, круты
ягоны лоб — там роздум і лятункі.

Трымціць бемоль — і жылкі, як жгуты,
пульсуюць зноў на скронях працай думкі.
Увесь ён — чуткі слых, і пад брывом,
здаецца, перажытае заснула.
Ды раптам стрэліць зірк, і мёртвым
швом
свет заўтрашні нітуецца з мінулым.

Крэшчэнда нарастае, як прыбой,
гудуць басы — на моры куча-мала,
грувасцяцца валы і за кармой
адчайны крык.
Ён быццам ля штурвала,
і флагман курсам, як ішоў, ідзе.
А ўжо з-пад кіпеня ўстаюць мільёны
паўстаўшых мас, і чутна дзе-нідзе,
як рушацца імперыі і троны.
Плямёны хлынулі на штурм цвярдынь.
Грыміць апафеоз да крайняй змогі.
Фартысіма — усенародны ўздым
і вольны свет на плошчах перамогі.

Уздых палёгкі: — Ах, Бетховен, ах!.. —
І ўсмешка шчасця ў Леніна ў вачах.

З нямецкай пераклаў
Язэп СЕМЯЖОН.

# «...У МАСТАЦТВЕ САМАЕ ЦІКАВАЕ — ГЭТА ПРАЎДЗІВАЕ АДЛЮСТРАВАННЕ...»

«Якая захапляючая галіна — гісторыя мастацтва. Колькі тут работы для камуніста. Учора да раніцы не мог заснуць, усё разглядаў адну кнігу за другой. І прыкра мне стала, што ў мяне не было і не будзе часу заняцца мастацтвам», — гаварыў У. І. Ленін у час першай рускай рэвалюцыі А. Луначарскаму.

Нават у эміграцыі Уладзімір Ільіч не прапускаў выпадку наведаць музеі. Н. К. Крупская прыгадвае, як ён «забраў неяк у Варўскага цэлы стос ілюстраваных характарыстык розных мастакоў і пачаў іх падоўгу па вечарах чытаць і разглядаць прыкладзеныя да іх карціны».

Вывучаючы тэарэтычную спадчыну У. І. Леніна, мы бачым у ёй выразную эстэтычную канцэпцыю. Разглядаючы пытанні мастацтва, якое Уладзімір Ільіч лічыў «агульнапартыйнай справай», ён зыходзіць з матэрыялістычнага разумення гісторыі. Ленінская тэорыя адлюстравання стала філасофскай асновай марксісцкай эстэтыкі.

Мастацтва заклікана спрыяць правільнаму пазнанню рэчаіснасці і яе рэвалюцыйнаму пераўтварэнню. Такую задачу, паводле Ільіча, можа выканаць толькі мастацтва, якое дае праўдзівае адлюстраванне жыцця ў яго дыялектычным развіцці, г. зн. мастацтва рэалістычнае.

Новую культуру, як вучыў У. І. Ленін, можна ствараць толькі на аснове стараннага вывучэння і перапрацоўкі з пазіцый марксізма лепшых узораў і традыцый сусветнай культуры, назапашанай чалавецтвам у працэсе яго развіцця. Вядома, як рашуча крытыкаваў Ільіч план стварэння так званай чыстай «пралетарскай культуры», пад выглядам якой рабочым падносілі буржуазныя погляды ў філасофіі, а ў галіне мастацтва выхоўвалі недарэчныя, скажоныя густы. Вядома, як горача спрачаўся ён 25 лютага 1921 года ў камуне студэнтаў ВХУТЭМАСа (Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрань) аб выяўленчым мастацтве, аб задачах жывапісу, які павінен ісці ў нагу з рэвалюцыяй. Зразумела, Ільіч адстойваў жывапіс рэалістычны. Леніну вельмі спадабаўся малады запал вхутэмасаўцаў, іх непасрэднасць, палымянае жаданне служыць рэвалюцыі. Але ў выніку гарачай палемікі яму стала ясна, што ў маладых мастакоў не было правільнага разумення шляхоў далейшага развіцця мастацтва.

З успамінаў сучаснікаў вядома, як рэагаваў Уладзімір Ільіч на розныя творы выяўленчага мастацтва, створаныя ў першыя гады Савецкай дзяржавы. Да ліку нямногіх ухваленых Леніным работ адносіцца барэльеф Сцяпана Халтурына, створаны Н. Альтманам. Калі абмяркоўваліся праекты помніка Карлу Марксу, Ленін асабліва прасіў звярнуць увагу мастака на партрэтнае падабенства.

Пра патрабаванні Ільіча да мастакоў прыгадваюць тыя з іх, каму выпала рэдкае шчасце ствараць партрэты Леніна з натуры.

Мастак і інжынер А. Магарам пазнаёміўся з Леніным у эміграцыі, у Швейцарыі, у 1916 годзе. Эцюд, створаны Магарамам, Уладзіміру Ільічу спадабаўся. На яго думку, падабенства было ўлоўлена, і ён згадзіўся пазіраваць для партрэта. Мастак у той час захапляўся Рэмбрантам і вырашыў пісаць Леніна ў капелюшы, каб стварыць «рэмбрантаўскае асвятленне». Калі работа набліжалася да завяршэння, Ленін прызнаўся, што эцюд яму падабаўся больш. «Мне думаецца, — сказаў ён, — што вы мудрагеліце. Мастак не павінен нікога пераймаць: ён павінен быць самабытны». І другі раз з повада таго ж партрэта: «усякае перайманне падобнае на крыўлянне. Памойму, у мастацтве самае цікавае — гэта праўдзівае адлюстраванне таго, як мастак адчувае, а няшчырасць і крыўлянне адразу кідаюцца ў вочы».

У 1920 годзе, на ўрачыстым адкрыцці II кангрэсу Камінтэрна ў палацы Урыцкага ў Петраградзе мастак І. Бродскі зрабіў алоўкам малюнак Уладзіміра Ільіча. Бродскі папрасіў Леніна паставіць пад малюнкам аўтограф. Уладзімір Ільіч не без падстаў заўважыў, што на малюнку ён атрымаўся не падобным на сябе. «Першы раз у жыцці падпісваюся пад тым, з чым не згодзен», — сказаў ён, распісваючыся.

Тады ж, у 1920 годзе, Н. Альтман стварыў першы скульптурны партрэт Леніна з натуры. Замест некалькіх гадзін, як спачатку меркавалася, скульптар працаваў у кабінеце правадыра 250 гадзін, на працягу якіх ім было створана 10 падрыхтоўчых лістоў. Ленін уважліва сачыў за падабенствам.

У «Філасофскіх сшытках» Уладзіміра Ільіча можна знайсці выпіску з Феербаха: «Мастацтва не патрабуе прызнання яго твораў за **рэчаіснасць»**. Апошняе слова падкрэслена. На жаль, Ленін не пракаменціраваў гэтую думку, унесеную ў «філасофскія сшыткі» не раней 1909 года.

Увогуле, як сведчаць, напрыклад, Н. К. Крупская і А. В. Луначарскі, Уладзімір Ільіч па пытаннях мастацтва выказваўся вельмі стрымана.





Гісторыі гэтых медаляў і плакеткі розныя. Медалі знаходзяцца ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея. Плакетку знайшлі ў зямлі школьнікі Лынтупскай сярэдняй школы.

Медалі з'яўляюцца першымі ў вялікай нумізматычнай Ленініяне. Пра адзін вядома, што ён выкананы на Манетным двары ў Петраградзе вопытным гравёрам Дзмітрыем Сцяпанавым і быў прысвечаны другой гадавіне Вялікага Кастрычніка.

Другі медаль перадаў у музей мінчанін Л. Хурсік. Медаль быў выпушчаны да першай гадавіны рэвалюцыі і ім узнагароджвалі чырвонагвардзейцаў, якія ўдзельнічалі ў абароне Царыцына.

Пра плакетку амаль нічога не вядома. Лынтупскія краязнаўцы звярталіся за даведкамі ў Ленінград на Манетны двор і ў Музей У. І. Леніна ў Маскве, але ўсё дарэмна. Звестак пра яе няма. Толькі з Саюза мастакоў СССР школьнікам адказалі, што, магчыма, плакетка самаробная. Гэта і навяло лынтупскіх краязнаўцаў на думку:

— А ці не з'яўляецца плакетка сведкам нейкай невядомай дагэтуль старонкі з дзейнасці КПЗБ?

Гэтая гіпотэза здаецца верагоднай, і рэдакцыя далучаецца да просьбы лынтупскіх школьнікаў і звяртаецца разам з імі да ўсіх нашых чытачоў:

— Ці не ведае хтонебудзь гісторыі гэтай плакеткі? Яе аўтара? Калі і з якой нагоды яна была створана?

# НЯГАСНАЕ СВЯТЛО

## У. І. ЛЕНІН І БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА

Упершыню ў гісторыі грамадскай думкі Уладзімір Ільіч Ленін стварыў стройнае цэласнае вучэнне аб культурнай рэвалюцыі як састаўной часткі пабудовы новага грамадства. Ён быў найвялікшым арганізатарам культурнага будаўніцтва, у тым ліку ў галіне бібліятэчнай справы.

Першы народны камісар па асвеце Анатолій Луначарскі ўспамінае цікавы эпізод: «...Уладзімір Ільіч, — піша ён,—звяртаў асаблівую ўвагу на ўсё, што мае адносіны да кнігі. Яго з першага дня перавароту хвалявала пытанне аб бібліятэках. У наступную пасля ўзяцця Зімняга палаца (рэзідэнцыі буржуазнага Часовага ўрада) ноч, гадзіны ў 4 або 5, ён адвёў мяне ўбок, пасля таго як адбылося маё прызначэнне камісарам па асвеце, і сказаў: «Пастарайцеся звярнуць у першую чаргу ўвагу на бібліятэкі... Як мага хутчэй трэба зрабіць кнігу даступнай масе».

Адносіны Уладзіміра Ільіча да бібліятэк—не проста факт яго асабістай біяграфіі. Ленінскае разуменне ролі кнігі, значэння бібліятэкі легла ў аснову савецкага бібліятэказнаўства. Ленінскія словы — «Кнігу — народу», «Кніга — велізарная сіла», ...«бачыць гордасць і славу.... бібліятэкі... у тым, наколькі шырока абарачаецца кніга ў народзе...»—не проста палітычныя лозунгі. У іх змяшчаецца прынцыпова новая разгорнутая праграма распаўсюджвання кніг сярод шматмільённых мас насельніцтва ва ўмовах сацыялістычнага грамадства.

Захавалася больш як 270 артыкулаў Леніна, яго дакладаў і прамоў, пісьмаў і тэлеграм, заўваг і паправак да праектаў дакументаў, прысвечаных бібліятэчнай справе. Каштоўнасць іх велізарная. «Калі цяпер перачытваеш выказванні Ільіча па бібліятэчнай справе,—пісала Н. К. Крупская,—адчуваеш, як важна і жыццёва патрэбна тое, што ён гаворыць, і хоць прайшлі гады, але артыкулы яго, напісаныя з повада гэтага, і цяпер—бадай, больш, чым калі-небудзь — служаць кіраўніцтвам да дзеяння».

Ажыццявіўшы ленінскую бібліятэчную праграму, савецкі народ здабыў славу самага чытаючага народа ў свеце. «Гэта прызнаюць нават тыя,—падкрэсліў Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў у прамове на ўрачыстым пасяджэнні ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР 28 снежня 1968 года, — хто не здольны радавацца нашым поспехам. А яшчэ ж параўнаўча нядаўна тры чвэрці насельніцтва краіны не ўмела чытаць і пісаць». Не баючыся перабольшання, можна сказаць: усе поспехі савецкіх людзей у прамой сувязі з тым, што задачы бібліятэчнага будаўніцтва былі выстаўлены Леніным як генеральныя ў культурнай рэвалюцыі. Абапіраючыся на дапамогу шырокай сеткі бібліятэк, партыя і ўрад у небывала кароткі тэрмін пакончылі з непісьменнасцю народа і вырашылі задачы не толькі ідэйна-палітычнага і духоўнага выхавання людзей, але і агульнай і прафесійнай адукацыі.

На заранку Савецкай улады Ленін марыў аб 50 тысячах бібліятэк, аб стварэнні такой планамернай арганізацыі бібліятэчнай абслугі насельніцтва, якая б дазволіла «пісьменнага напаіць і непісьменнага навучыць». Цяпер гэта мара матэрыялізуецца ўсё больш паслядоўна і поўна. Пераважная большасць савецкіх людзей карыстаецца бібліятэкамі па месцы пражывання, работы, адпачынку, у дарозе. Ніводная краіна свету не можа параўнацца з СССР па колькасці бібліятэк, кніг, платных бібліятэчных работнікаў на душу насельніцтва, разгалінаванасці бібліятэчнай сістэмы.

Савецкі чалавек прывык да лічбаў, якія ўражваюць уяўленне. І тым не менш маштабы сучаснай савецкай бібліятэчнай «дзяржавы» здзіўляюць усякага, хто хоць раз пазнаёміўся з ёй. У СССР больш 360 тысяч бібліятэк. Да паслуг 180 мільёнаў чытачоў— 3,3 мільярда кніг. Бібліятэкі рознага роду або іх філіялы ёсць не толькі ў гарадах і вёсках, але і ў цэхах заводаў, на аддаленых ад пастаяннага жылля жывёлагадоўчых фермах, пры палявых доміках горных пастухоў, на караблях і ў паяздах.

Вялікае тэарэтычнае і практычнае значэнне для станаўлення бібліятэчнай справы ў краіне мелі ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, гарманічнага развіцця нацыянальных культур. Аб гэтым не лішне сказаць напярэдадні 50-годдзя ўтварэння СССР. Уладзімір Ільіч неаднаразова звяртаў увагу на арганізацыю бібліятэчнай абслугі ўсіх нацыянальнасцей, стварэнне і распаўсюджванне кніг на іх роднай мове. У пісьме «У Народны Камісарыят асветы» ён рэкамендаваў заахвочваць тыя бібліятэкі, якія найбольшую колькасць паляпшэнняў і найлепш правялі. Да такіх паляпшэнняў ён адносіў «прыцягненне новых слаёў чытачоў, жанчын, дзяцей, нярускіх і да т .п.».

Крыху больш як паўстагоддзя назад на ўскраінах царскай Расіі зусім не было публічных бібліятэк. Ды яны і не маглі існаваць, бо народ быў непісьменны. Не было публічных бібліятэк ва Узбекістане, у Кіргізіі, Таджыкістане, Туркменіі. Цяпер савецкі чалавек любой нацыянальнасці, дзе б

Ленін ведаў, што ўмовы мастацкай творчасці спецыфічныя, таму ён падкрэсліваў, што ў пытаннях культуры паспешлівасць і размашыстасць шкодныя. «Талент — рэдкасць. Трэба яго сістэматычна і асцярожна падтрымліваць», — пісаў ён.

Ленін не закрываў вочы на недахопы творчых работнікаў, але прапанаваў бачыць у іх дзейнасці галоўнае і вызначальнае, умеў аб'ектыўна ацаніць іх заслугі незалежна ад іх поглядаў і напрамкаў. Колькі павучальнага ў яго перапісцы з Аляксеем Максімавічам Горкім!.. Колькі каштоўнага для нас!..

Ленін падтрымліваў і падбадзёрваў людзей у цяжкую для іх хвіліну. У яго паводзінах не было ні намёку на «мецэнацтва», на пагляд «зверху ўніз». У ім шчасліва спалучаліся просты, таварыскі падыход да людзей, сардэчны клопат аб іх, чуласць і строгая патрабавальнасць да работнікаў культурнага фронту.

Паводле яго перакананняў, камуністы не павінны ў галіне культурнага будаўніцтва даваць развівацца хаосу. Камуністы павінны «ўпаўне планамерна кіраваць гэтым працэсам і фарміраваць яго вынікі». Для яго кіраваць зусім не азначала адміністраваць. Кіраваць, паводле Леніна, гэта здолець захапіць веліччу і прыгажосцю камуністычных ідэалаў, «прасякнуць сваім духам, запаліць агнём сваёй ініцыятывы».

Уладзімір Ільіч успрымаў мастацтва як магутную сілу, здольную спрыяць пераўтварэнню свядомасці мільённых мас народа. I таму сярод пытанняў, пастаўленых на першы план у гады станаўлення сацыялістычнага ладу ў нашай краіне, апынуўся славуты ленінскі план манументальнай прапаганды.

Да розных помнікаў, якія ўзнікалі згодна з гэтым планам, ён ставіўся па-рознаму. Прымаў да сэрца няўдачы. Радаваўся ўдачам.

Ленін гаварыў, што мастацтва належыць народу, што яно павінна ісці сваімі карэннямі ў самую тоўшчу шырокіх працоўных мас, што яно павінна быць зразумелае гэтым масам і любімае імі. I каб мастацтва магло наблізіцца да народа, а народ да мастацтва, неабходна «ўзняць агульны адукацыйны і культурны ўзровень».

Чытаючы і перачытваючы Леніна, яго творы, непасрэдна і ўскосна звязаныя з праблемамі мастацтва, у тым ліку выяўленчага, успаміны, дзе дарагая нам кожная рыска, якая пралівае святло на адносіны Уладзіміра Ільіча да мастацтва, нельга не падзяліць пачуцці Рамэна Ралана, які пісаў:

«Я не ведаю другой, настолькі ж магутнай асобы ў Еўропе нашага стагоддзя. Ён так глыбока, так магутна скіраваў руль сваёй волі ў хаатычны акіян мяккацелага чалавецтва, што баразна яго доўга, доўга не згладзіцца ў хвалях; нягледзячы на ўсе буры, карабель нясецца на ўсіх парах да новага свету...»

I далей:

«Ніколі яшчэ чалавецтва не стварала ўладара дум людскіх настолькі абсалютна бескарыслівага. Яшчэ пры жыцці ён выліў сваю маральную фігуру ў бронзу, якая перажыве вякі».

**Ірына НАЗІМАВА.**



ён ні жыў, мае поўную магчымасць чытаць кнігі, часопісы, газеты на рускай і іншых мовах народаў СССР. Ва ўсіх саюзных і аўтаномных нацыянальных рэспубліках СССР створана разгалінаваная сетка бібліятэк. Толькі ва Узбекістане, у Кіргізіі, Таджыкістане і Туркменіі да пачатку 1971 года было каля 10 тысяч масавых бібліятэк.

Сімптаматычна і іншае: інтэрнацыянальны характар дзейнасці савецкіх бібліятэк. Шматнацыянальныя іх фонды, шматнацыянальная чытацкая аўдыторыя. У бібліятэках Савецкай Татарыі сабрана літаратура больш чым на сарака мовах народаў СССР. Гэта невыпадкова. У нафтавых раёнах Татарыі жывуць і працуюць тысячы людзей, якія прадстаўляюць дзесяткі нацыянальнасцей. Бібліятэкі імкнуцца прыцягнуць да чытання ўсе народы, што насяляюць гарады і вёскі. Напрыклад, на будоўлях і палях Казахскай ССР працуюць прадстаўнікі 122 нацыянальнасцей і народнасцей, і бібліятэкі бесперабойна забяспечваюць іх кнігамі і інфармацыяй.

Мы ганарымся таксама тым, што нам удалося выканаць запавет Леніна аб прыцягненні да чытання мільёнаў дзяцей, жанчын (для рэспублік Сярэдняй Азіі гэта было асабліва актуальна).

Паспяхова ажыццяўляюцца ленінскія прынцыпы планамернай арганізацыі і цэнтралізацыі, пастаяннай дзяржаўнай дапамогі бібліятэкам, агульнадаступнасці кнігасховішчаў. Усё гэта, асабліва бясплатнае карыстанне бібліятэкамі,і характэрна для сацыялістычнага грамадства.

Савецкія бібліятэкары шмат робяць каб кніга стала неад'емнай часткай духоўнага жыцця савецкіх людзей, надзейным памочнікам у вучобе і працы.

Раней у Савецкай краіне, як і ў іншых краінах, масавыя бібліятэкі разглядаліся толькі як культурна-асветныя ўстановы. Аднак пад уздзеяннем навукова- тэхнічнай рэвалюцыі, ва ўмовах фарміравання агульнадзяржаўнай сістэмы навукова-тэхнічнай інфармацыі патрабаванні да бібліятэк змяніліся. Яны ўжо не толькі агульнаадукацыйныя ідэалагічныя ўстановы, але ў радзе выпадкаў (асабліва на сяле, у раёнах, дзе часам няма тэхнічных і іншых спецыяльных бібліятэк), і цэнтры інфармацыі, што садзейнічаюць пашырэнню дасягненняў навукі, тэхнікі, перадавога вопыту.

Савецкія бібліятэкары, якія атрымліваюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю ў спецыяльных навучальных установах, выхоўваюць у народзе любоў да кніг. Яны імкнуцца ўзняць бібліятэчна-бібліяграфічную культуру насельніцтва, і перш за ўсё моладзі, бо толькі бібліяграфічна пісьменны чытач здольны разумна распарадзіцца кніжнымі фондамі бібліятэк — гэтымі дзівоснымі кладоўкамі духоўных багаццяў і велізарных ведаў, накопленых за многія стагоддзі чалавецтвам.

**Барыс БАЧАЛДЗІН,**
галоўны рэдактар часопіса «Библиотекарь». (АДН).

# ЗНАЧНАСЦЬ ДУМКІ, ДАКЛАДНАСЦЬ ПАЗІЦЫІ

## *ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА КАМПАЗІТАРАЎ БССР*

Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» знаходзіць усё больш шырокі водгук сярод работнікаў розных творчых саюзаў. Размова пра тое, якой павінна быць літаратурна-мастацкая крытыка, аналіз крытычнай думкі і пазіцыі крытыкаў становяцца ўсё больш сур'ёзнымі і канкрэтнымі.

На мінулым тыдні адбыўся пленум праўлення Саюза кампазітараў Беларусі, які быў прысвечаны абмеркаванню праблем музычнага жыцця рэспублікі ў святле Пастановы ЦК КПСС.

У дакладах музыказнаўцаў В. Сізко і Л. Аўэрбаха, а таксама ў выступленнях падкрэслівалася, што, нягледзячы на значныя поспехі беларускай музычнай крытыкі і асабліва музыказнаўства, яны яшчэ ў многім адстаюць ад жыцця, ад дасягненняў беларускіх кампазітараў. Адзначалася, што крытыкі нашы ўсё яшчэ ў вялікім даўгу перад слухачом, густ якога яны павінны выхоўваць. І таму ўдзельнікі пленума з вялікай зацікаўленасцю і добрым запалам гаварылі пра тое, як трэба ўхіляць недахопы крытыкі, абмяркоўвалі яе нявыкарыстаныя магчымасці. А магчымасці ў нашых крытыкаў ёсць, хоць атрад тых, хто піша пра музыку, пакуль што невялікі.

Сярод крытыкаў і музыказнаўцаў называліся імёны І. Нісневіча, А. Ракавай, Т. Шчарбаковай, А. Ладыгінай, якія з'яўляюцца аўтарамі ўсесаюзнага часопіса «Советская музыка». На старонках перыядычнага друку і з манаграфічнымі даследаваннямі выступаюць Г. Куляшоў, З. Мажэйка, І. Зубрыч, К. Сцепанцэвіч, Г. Глушчанка, Л. Мухарынская, Л. Аўэрбах і іншыя.

Манаграфіі абагульняюць вялікі жыццёвы і творчы матэрыял, як, напрыклад, гэта зроблена ў работах, прысвечаных беларускай народнай музычнай творчасці, беларускай оперы, асобным кампазітарам. Аднак, на жаль, недахоп многіх манаграфій у тым, што ў іх занадта многа біяграфічных фактаў, звестак агульнага характару і мала аналізу, вывадаў, пранікнення ў асаблівасці творчасці таго ці іншага кампазітара.

Аб неабходнасці аналізаваць мастацкі твор, суадносячы яго з жыццём, з тымі з'явамі, якія характэрныя сёння для ўсяго савецкага і сусветнага музычнага мастацтва, гаварыла музыказнаўца А. Ладыгіна. Яна падкрэслівала, у прыватнасці, што чалавек, які бярэцца за крытычнае пяро, павінен не толькі дасканала ведаць фактычны матэрыял, але і валодаць марксісцка-ленінскай метадалогіяй. А ў работах некаторых беларускіх музыказнаўцаў назіраецца часам альбо чысты эмпірызм, слізганне па фактах, альбо голае тэарэтызаванне. Ідэйна-эстэтычны ўзровень музычнай крытыкі павінен быць вышэйшым.

Многа заўваг было зроблена ў адрас тых, хто займаецца аператыўным рэцэнзаваннем музычных твораў. Музычныя крытыкі, аддаючы ўвагу прэм'ерам оперных і балетных спектакляў, першаму выкананню тых ці іншых твораў асобных кампазітараў, зусім не заўважаюць новых праграм цэлых творчых калектываў, такіх, як камерны аркестр, Дзяржаўны народны хор БССР, Акадэмічная харавая капэла БССР, тэатр музкамедыі. Зусім мала ўвагі ўдзяляецца і шматлікім эстрадным калектывам.

Размова на пленуме ішла не толькі пра беларускія эстрадныя калектывы, але і пра «заезджыя», якія часам збіраюць вялікую аўдыторыю зусім не таму, што вылучаюцца выдатным выканаўчым майстэрствам, а таму, што маюць сенсацыйны, «ультра-сучасны» характар. Тут бы і сказаць сваё слова нашым рэцэнзентам, паспрачацца з дурнымі густамі, заўважыла ў сваім выступленні Л. Доўнар.

В. Сізко ў дакладзе і ўдзельнікі спрэчак адзначылі, што артыкулы многіх крытыкаў і музыказнаўцаў грашаць інфармацыйнасцю, з аднаго боку, а, з другога, загрувашчаны прафесіяналізмамі, выкладаюцца цьмянай, заблытанай мовай. Фразеалогія іх незразумелая.

З гэтым, відаць, некаторыя музыказнаўцы не згодны, бо яны кідалі папрокі ў адрас рэдакцый газет і часопісаў, якія нібыта спрашчаюць мову рэцэнзій, правяць тэкст.

Як сказаў пісьменнік А. Бачыла, некаторыя крытыкі даюць свае ацэнкі творам у выглядзе нейкіх незразумелых формул. Безумоўна, крытыка павінна быць прафесійнай, але і яснай таксама. Хто ясна мысліць, той ясна піша.

З некаторымі папрокамі ў адрас журналістаў, безумоўна, нельга не згадзіцца. Так, напрыклад, музыказнаўца Л. Мухарынская заклікала газетчыкаў адмаўляцца ад практыкі ўжывання агульных высокіх слоў, за якімі нічога не стаіць альбо стаіць нешта процілеглае таму, што сцвярджаецца. У прыватнасці, у артыкуле «Спяваюць шырмаўцы», надрукаваным у «Літаратуры і мастацтве», аўтар паўтарыў безліч кампліментаў капэле, якая заўсёды «абяцае сустрэчу з харàством». А справа ў тым, што нашай акадэмічнай харавой капэле трэба дапамагчы справіцца з вялікімі цяжкасцямі, якія яе напаткалі ў апошні час, трэба разабрацца, чаму знізілася яе выканаўчае майстэрства. Ад дзяжурных дыфірамбаў карысці няма.

Сур'ёзныя папрокі былі адрасаваны рэдакцыі «Вячэрняга Мінска», якая друкуе на старонках газеты некваліфікаваныя артыкулы аб музыцы.

Газеты і «тоўстыя» часопісы мала выступаюць па пытаннях музычнага мастацтва. Вельмі рэдка рэцэнзуюцца і выступленні музыкантаў, якія прыязджаюць да нас на гастролі.

Найбольш горача абмяркоўвалася пытанне аб узаемаадносінах крытыка і таго, каго ён крытыкуе, аб этыцы гэтых узаемаадносін. Ішла гаворка пра тактоўнасць і добразычлівасць крытыка і разам з тым пра яго прынцыповасць і перакананасць.

Калі адны выступалі супраць катэгарычнасці ацэнак і выказванняў, дык другія даводзілі, што за катэгарычнасцю стаіць перакананасць, што рэцэнзент абавязан адстойваць свае погляды, не хаваючы іх за абцякаемымі «я думаю», «мне здаецца»... (Заўважым толькі, што некаторыя прамоўцы, прызнаючы аб'ектыўнасць адным з галоўных крытэрыяў і выступаючы супраць залішняй катэгарычнасці, самі былі якраз занадта катэгарычныя, асабліва тады, калі аспрэчвалі крытыку ў свой адрас).

Клопатам аб выхаванні кадраў музычных крытыкаў было прасякнута выступленне К. Сцепанцэвіч. Яна гаварыла пра тое, што ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі неабходна стварыць факультэт музычнай крытыкі, і давяла да ведама ўдзельнікаў пленума, што кіраўніцтва кансерваторыі робіць захады, каб такі факультэт быў створаны. А пакуль што рэдакцыі газет і часопісаў павінны шырэй прыцягваць да рэцэнзавання студэнтаў іншых факультэтаў кансерваторыі. К. Сцепанцэвіч адзначыла таксама, што па-за ўвагай рэдакцый і Саюза кампазітараў БССР застаюцца музыказнаўцы і выкладчыкі музыкі, якія працуюць на перыферыі. Таму мы амаль нічога не ведаем пра музычнае жыццё нашых абласных і раённых цэнтраў, не гаворачы ўжо пра музычнае жыццё вёскі.

Гаварылася на пленуме і пра тое, што нашы бібліятэкі, нават цэнтральная, не маюць музыказнаўчай бібліяграфіі, а тыя даведкі, якія ёсць, не сістэматызаваны.

Выказваліся думкі аб неабходнасці мець у рэспубліцы свой музычны часопіс і больш выдаваць музычныя творы кампазітараў асобнымі выданнямі.

У спрэчках таксама выступілі музыказнаўцы Н. Калеснікава, Н. Юдзеніч, галоўны рэдактар музычных перадач Беларускага тэлебачання Г. Ананьева.

Удзельнікі пленума прынялі рашэнне прадоўжыць размову пасля пленума праўлення Саюза кампазітараў СССР, які адбудзецца 25 красавіка ў Маскве.

БУШАВАЛА завіруха. Жалобны стогн бліжняга лесу зліваўся з выццём азвярэлай стыхіі.

З наступленнем цемры ў бліндаж камандзіра палка зайшоў афіцэр, з ног да галавы аблеплены снегам.

— Дазвольце звярнуцца!

Дакладваючы аб сваім прыбыцці і аб справах у сваім падраздзяленні, ён па-дзіцячы лыпаў заінелымі вейкамі, не адважваючыся змахнуць кропелькі вады ад снегу, што растаў, і ад гэтага твар яго здаваўся заплаканым.

Камандзір палка, маёр Васіль Раманаў, выслухаўшы даклад афіцэра, моцна паціснуў яму руку.

— Знаёмцеся, капітан,— звярнуўся Раманаў да мяне,— гэта лейтэнант Алімджан. Я вам казаў аб ім. А таварыш капітан,—кіўнуў у мой бок Раманаў, — ваенны карэспандэнт. Распранайцеся, Алімджан, і пагутарце з нашым госцем, а я вярнуся праз паўгадзіны.

Гэтай сустрэчы я даўно чакаў.

Раманаў ужо ў першы дзень майго прыбыцця на перадавую шмат чаго расказваў пра адважнага лейтэнанта. Пакуль Алімджан здымаў шынель, я ўважліва разглядваў яго. Гэта невялікага росту, шырокі ў плячах, малады чалавек, з сіняватасмуглым тварам.

Усё, што я чуў пра Алімджана, здалося мне неверагодным — так мала ён быў падобны на вопытнага абстралянага байца!

Пра апошнюю танкавую атаку фашыстаў мне расказвалі яшчэ ў штабе дывізіі. Няўжо гэтыя грозныя страшыдлы Алімджан прымусіў уцякаць, ды яшчэ тры з іх падпаліў!

Маёр Раманаў не мог перабольшваць. Я добра ведаў камандзіра палка. Не такі гэта быў чалавек, каб пускаць пыл у вочы. «Мала чаго не бывае на вайне! — падумаў я. — Можа быць, у такой заварусе, як гэта, вызначыць, хто падбіў танк, было немагчыма? Прыпісалі іх хлопцу — ён і трапіў у героі».

Тым часам Алімджан ціха прысеў каля печкі. Нібы падслухаўшы мае думкі, маўчаў. Ад прапанаванай папяросы адмовіўся. Размова не клеілася.

— Адкуль вы родам, лейтэнант? — запытаў я, адчуваючы, што інакш ён можа маўчаць да раніцы.

— З Ферганы. Я узбек,— адказаў ён густым басам.— А вы — армянін, так?

Калі маёр нас знаёміў, то прозвішча майго не назваў, а гавару я па-руску, здаецца, без акцэнту, ды і з выгляду мала падобны на армяніна, таму здзівіўся: як гэта хлопец здагадаўся аб маёй нацыянальнасці? А ён усміхнуўся і растлумачыў:

— У мяне шмат сяброў армян.

Ён сказаў гэта па-армянску.

— Вы здзіўлены? — ён весела засмяяўся.— А я не бачу ў гэтым нічога асаблівага! Стары Аванес, наш сусед, майстар на ўсе рукі, часта казаў мне: «Запамятай, сынку, чым больш моў ведае чалавек, тым ён багацейшы!»

Алімджан так ажывіўся, што на гэты раз сам папрасіў у мяне папяросу.

Мне было прыемна пачуць родную мову, і мы размаўлялі далей па-армянску. На мае пытанні Алімджан адказваў амаль без запінкі, растлумачыўшы гэта тым, што і на фронце ў яго ёсць пастаянная практыка.

— У маёй роце ёсць армянін, Азат яго завуць. Вось каго я, не задумаўшыся, узяў бы з сабой у разведку! Ды і аднагодкі мы. Равеснікі. Бацькі яго з Карса. Зараз жывуць на Севане. Вось вам з кім трэба пазнаёміцца. Гэта ж Азат і падбіў галаўны танк!

Мне здалося, што ён крыху рысуецца сваёй сціпласцю.

— А хто ж падбіў тры другія?—спытаў я.

— Тры другія падбіў наш разлік...

— Хіба не вы асабіста? — настойваў я.

Алімджан неахвотна згадзіўся:

— Мне сапраўды давялося самому замяніць

## НОР-АЙР




*Тэма Вялікай Айчыннай вайны займае ў армянскай савецкай літаратуры важнае месца. Пра мужнасць, патрыятызм савецкіх людзей, сілу іх дружбы ў гады Айчыннай вайны—напісаны шматлікія творы такімі пісьменнікамі, як Х. Гюльназаран, С. Ханзадзян, М. Саркісян, С. Курцікян, Г. Баласянян, Нор-Айр і іншыя.*

*Прапануем увазе чытачоў адно з апавяданняў Нор-Айра.*

наводчыка. Вядома, нейкая доля ёсць і мая...

Больш я ад яго нічога не змог дабіцца. Алімджан аднекваўся і яўна сумаваў.

Але варта было спытаць, ці жанаты ён — і хлопец зноў перамяніўся. На смуглых скулах выступіў румянец, і ён загаварыў хутка, быццам чакаў майго пытання.

— Ці жанаты? Фактычна — так, а юрыдычна — не. Зарэгістравацца мы з Ашахан не паспелі. Я яе спаткаў у Ташкенце: быў там у камандзіроўцы і пазнаёміўся выпадкова, на аўтобуснай стаянцы... Яна студэнтка, медычка. Круглая сірата. Выхоўвалася ў дзіцячым доме. Ды і ў мяне акрамя маці — нікога. Бачылі б вы, як узрадавалася маці, калі я пазнаёміў іх! Усё падганяла ісці зарэгістравацца. А нам усё здавалася, што такая паспешлівасць без патрэбы, усё жыццё наперадзе! І вось — вайна... Усё паляцела к чорту.

Алімджан так расхваляваўся, што забыўся запытаць дазволу ўзяць з майго трафейнага партсігара яшчэ адну папяросу.

— Цяжка!.. Разумееце, няпэўнасць горш за ўсё... Столькі месяцаў мінула, а пісем усё няма. Ашахан была ў такім становішчы, калі я паехаў... Ці перабралася яна да мамы—не ведаю. Што там, як там — нічога невядома...

— А сам ты пісаў ім, Алімджан? — я нават не заўважыў, што перайшоў на «ты».

— Вядома!.. Пісаў і дамоў, і ў інстытут — ніякага адказу. Нават не ведаю, што і думаць... Вы разумееце мяне?.. Каб толькі ведаць, што дома парадак, лягчэй ваяваць было б... А то начамі не сплю. Думаю. Усё думаю.

Цёмныя, крыху раскосыя вочы Алімджана глядзелі некуды міма мяне. Ён памаўчаў... Потым асцярожна дастаў з нагруднай кішэні дакументы, знайшоў сярод іх невялічкую фатаграфію.

Ён раўніва сачыў за мной, пакуль я ўважліва разглядваў яго Ашахан.

Зразумеўшы, што яна спадабалася мне, з палёгкай уздыхнуў.

Дзяўчына сапраўды была прыгожая. Тонкія бровы, радзімка над верхняй губой, смяшлівыя выразна акрэсленыя вусны, гладка прычасаныя, відаць, вельмі цёмныя валасы — такі твар не скора забудзеш!

Я добра разумеў субяседніка.

Маёр вярнуўся пазней, чым абяцаў: затрымалі нейкія справы ў штабе дывізіі. Лейтэнант устаў і на развітанне моцна паціснуў маю руку.

— Добра было б заглянуць вам у нашу роту! — сказаў ён мне.— Не пашкадуеце, таварыш капітан!.. У нас, можна сказаць, сапраўдны інтэрнацыянал: чатырнаццаць нацыянальнасцей. І ўсе камсамольцы.

Я прымасціўся на нейкіх мяшках і з галавой накрыўся шынялём, заснуў, быццам праваліўся...

— Пара, капітан!.. Падымайся! — нада мной стаяў Васіль і тузаў за плячо.

Я з цяжкасцю устаў, але зусім прачнуўся толькі тады, калі спаласнуў твар ледзяной вадой.

Хвілін праз дзесяць мы па заснежаных сцежках прабіраліся на пазіцыі, якія займала рота Алімджана.

Бліндаж яго быў у сасновым лесе. Самаго лейтэнанта мы спаткалі яшчэ па дарозе. Алімджан ужо не выглядаў такім маладжавым. Спаткаў ён нас стрымана, без мітусні, падцягнуты і ўнутрана, прыкметна, напружаны. Відаць было, што гэтай ноччу яму не ўдалося выкраіць на сон хаця б паўгадзіны.

Маёр быў задаволены дакладам Алімджана, які неўзабаве пайшоў, а мы спусціліся ў бліндаж. Насустрач падняўся круглатвары, чарнавусы сяржант. І хоць ён не назваў сябе, я пазнаў у ім Азата, таго, хто падбіў галаўны танк.

Сяржант даверліва падсеў да мяне і загаварыў:

— Вы даўно, таварыш капітан, ведаеце нашага лейтэнанта?.. Ага, толькі ўчора пазнаёміліся?.. Ну, гэта нічога, праз дзень—другі будзеце ведаць аб ім усё. Толькі не ад яго, ён не любіць пра сябе расказваць. Ад хлопцаў нашых... Яны любяць свайго камандзіра... Асабліва пасля выпадку з тым вепруком-оберстам, якога мы амаль суткі валаклі на сабе, баяліся, што можа сцячы крывёю: падстрэлілі яго свае, калі мы адыходзілі. Не чулі?.. Ну як жа! Паслухайце. Алімджан тады камандаваў узводам разведкі. Загадалі з дывізіі — тэрмінова дастаць языка. Ну, Алімджан бярэ мяне, яшчэ аднаго, і мы ідзём... Перабраліся на той бок шашы без прыгод. Праўда, ледзь не наскочылі на нямецкую аўтакалону пры пераходзе. Але

З пошты ЛіМ-а

# ПРА ШЭРАЕ «СВІТАННЕ» І ЯШЧЭ ТОЕ-СЁЕ

## АДНОСНА НОВАГА ЗБОРНІКА ВЕРШАЎ ВІКТАРА ШЫМУКА

МЫ ШЧЫРА любім родную паэзію і гэтак жа шчыра заклапочаны яе далейшым росквітам. Уважліва сочачы за кожнай новай паэтычнай кніжкай, за кожным новым паэтычным імем, мы ад душы радуемся творчым удачам сталых і маладых аўтараў і засмучаемся іх няўдачамі. Апошнія, гэта значыць, няўдачы (менавіта пра іх пойдзе ў нас гаворка) бываюць розныя. Адна справа, напрыклад, няўдачы пачаткоўца, прычына якіх — адсутнасць альбо недастатковасць у яго жыццёвага і творчага вопыту. Іх можна зразумець і нават, у пэўным сэнсе, апраўдаць, сціпла назваўшы іх хваробамі росту. Бывае, што няўдача можа напаткаць і вопытнага аўтара. Яе таксама можна зразумець: урэшце, і паэтычная творчасць можа мець свае выдаткі. Мы ж маем на ўвазе нешта зусім іншае, магчыма нават і зусім не няўдачы ў тым сэнсе, што само гэтае слова мае ў сабе адценне выпадковасці, выключнасці.

У апошні час і наша крытыка, і чытачы ўсё больш пагаджаюцца на тым (лепш, бадай, будзе сказаць інакш — выказваюць трывогу), што ў нас адбываецца нібыта пэўная дэвальвацыя паэтычнага слова. Вершаў выходзіць шмат, але сярод гэтай агромністай вершаванай прадукцыі надзвычай багата рэчаў шэрых, безаблічных, павярхоўных, дробязных па думцы і прыземленых па сваёй настраёвасці, кволасці і няпэўнасці пачуцця. Падставы для такой трывогі, безумоўна, ёсць. І разабрацца ва ўсіх аспектах гэтай непажаданай з'явы ў паэзіі — справа літаратуразнаўцаў і крытыкаў. Нам жа хочацца звярнуць увагу толькі на адну акалічнасць, якая спрыяе пашырэнню гэтага патоку паэтычнай шэрасці. Думаецца, што галоўная прычына таямнічай дэвальвацыі паэтычнага слова — зніжэнне патрабавальнасці да яго як з боку саміх творцаў, так і з боку рэдактараў і выдаўцоў.

Каб не быць галаслоўнымі, нагадаем тут так званую «пегасную» серыю паэтычных кніжак — серыю першых зборнікаў вершаў маладых паэтаў. Сапраўды, у апошнія год-два ўзровень іх відавочна знізіўся. Гаварыць пра іх падрабязна мы не будзем — большасць з іх ужо атрымала ацэнку ў друку. Скажам толькі, што ў многіх першых кніжках занадта шмат вершаў, якія не пазначаны адзнакай асабістасці, вершаў, якія належаць усім і нікому, вершаў, якія можна назваць вершамі хіба толькі па знешніх адзнаках.

На жаль, гэта самае можна сказаць і пра многія зборнікі вершаў сталейшых і зусім сталых паэтаў, што засмучае, вядома, куды больш, чым пралікі і няўдачы пачаткоўцаў.

Зразумейце нас правільна. Мы ведаем, што ў кніжках могуць быць, поруч з выдатнымі і добрымі вершамі, і творы горшыя, нават, часам, пасрэдныя. Так яно хутчэй за ўсё і бывае. Недарэмна ж існуе памоўка: калі ў кнізе ёсць дзесятак добрых вершаў, значыць, гэта кніга добрая. Таму, кажучы, што ў згаданых вышэй кніжках пачаткоўцаў шмат непажаданага, мы ўсё ж і ў думках не закрэсліваем іх цалкам: у кожным з «пегасных» зборнікаў ёсць, хоць часам і кволыя, парасткі таленту. І было б яшчэ лепш, калі б выдавецтва паставілася больш строга да выпуску ў свет асобных з гэтых кніжак, каб рэдактар дапамог аўтару-пачаткоўцу зрабіць першы зборнік больш выразным і цэласным.

Так, кніжкі, як і людзі, бываюць розныя. Адны — больш цікавыя, іншыя — менш; адны надоўга бяруць нас, чытачоў, у палон, іншыя ж прачытваюцца подбегам, кранаюць нас толькі асобнымі творамі ці мясцінамі; часам мы можам не прымаць таго, што сцвярджае ці абараняе аўтар, але затое гэтае наша непрыняцце актыўнае, аж да абурэння. Усё гэта, мусіць, натуральна.

Ды вось перад намі кніжка, пра якую нельга сказаць ні першага, ні другога, ні трэцяга. Кніжка, якая не выклікае ніякіх пачуццяў, акрамя як шчырага недаўмення — няўжо гэта паэзія? Маем на ўвазе зборнік вершаў Віктара Шымука «Світанне».

Думаецца, што выхад у свет такіх кніжак, — з'ява не ардынарная. Яна павінна ўстрывожыць работнікаў выдавецтва, яна павінна прымусіць задумацца і кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Задумацца хаця б вось над чым: ці прыносяць падобныя кнігі карысць чытачу і ці варта траціць на іх выданне паперу і сродкі? Нам здаецца, што Шымукова «Світанне» дае сур'ёзныя падставы задумацца над гэтым. Каб пераканацца ў справядлівасці гэтых слоў, давайце разам пачытаем зборнік.

Вось чытаем верш:

Люблю, як шуміць мора
Вясною, летам і ўвосень,
Як хваля з хваляй гаворыць,
Як пыркі ляцяць у просінь.

Гляджу на стыхію марскую,
На пеністы шум прыбою,
То мора са мной сумуе,
То мора спявае са мною.

Люблю, як шумяць сосны
Ў маім наднёманскім краі,
Як ціха яны на росы
Іглiцу сваю раняюць.

Люблю, як шуміць жыта
Сваім вусатым калоссем,
Шуміць, смугою спавіта,
Што зернем яно налілося.

Жыта, сосны і мора,
Шуміце і ціха і зычна!
...Усё пра жыццё гаворыць —
Нязведанае і прывычнае.

Верш скончыўся, а мы — у непаразуменні. Што гэта — няўдалая пародыя? І дзе ўжо тут будзеш звяртаць увагу на тое, што ў папярэднім вершы было «неба смугой спавіта», чаму тут жыта «смугою спавіта» ад таго, «што зернем яно налілося», і нават на «паэтычнае адкрыццё» заключных радкоў!

У другім вершы В. Шымук расказвае пра тое, як «старое лісцё паволі зграбае пенсіянер»; у трэцім патэтычна ўсклікае: «О як, прырода, ты **пабудавана!**»; у чацвёртым саладжава кажа «добрай раніцы» маю, які «першую квецень лашчыць пяшчотна», «запаліў цуда-росы на жыце», «на ціхіх узлесках для закаханых рассыпаў пралескі» і г. д.; у пятым...

Цяжка гаварыць пра кнігу вершаў, калі ні розум наш, ні сэрца ні за што не могуць, калі можна так сказаць, зачапіцца, калі прызнанні лірычнага героя вершаў не выклікаюць у нашай душы ніякага суперажывання, бо яны, гэтыя прызнанні, альбо ненатуральна саладжавыя, альбо надуманыя, калі думкі твораў мізэрныя і выказаны яны сцёртымі, зацяганымі словамі.

# БЕЛАРУСЫ Ў ПЕЦЯРБУРЗЕ

У дакастрычніцкі час у Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, і беларуская моладзь, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, вымушана была ехаць за межы сваёй старонкі, часцей за ўсё ў сталіцу Расіі—Пецярбург. Сюды ж, у пралетарскі цэнтр краіны, нямала беларусаў прыязджала шукаць работы на заводах і фабрыках. Апынуўшыся ў Пецярбурзе, многія беларускія студэнты і рабочыя не адрываліся ад роднай глебы, іх глыбока хвалявалі балючыя пытанні становішча роднага народа. Гэта і з'явілася грунтам для ўзнікнення ў Пецярбурзе беларускага грамадскага руху, даследаванню якога і прысвечана новая кніга Р. Семашкевіча. Хаця факты, якія разглядае даследчык у сваёй працы, у большасці не новыя, аднак, сабраныя ў адно цэлае і аб'яднаныя адной тэмай, яны атрымліваюць новае і больш глыбокае асвятленне. Прачытаўшы кнігу Р. Семашкевіча, выносіш яскравае ўяўленне пра той велізарны ўклад, які зрабілі пецярбургскія беларусы ў справу нацыянальнага ўзраджэння сваёй радзімы.

Падзеяй першаступеннага гістарычнага значэння для Беларусі было заснаванне ў 1881 годзе беларускага гуртка «Гоман», які выдаў у 1884 годзе два нумары аднайменнага часопіса. Усебакова аналізуючы артыкулы часопіса, аўтар паказвае, што гоманаўцы ўпершыню распрацавалі праграму нацыянальнага развіцця беларусаў. Будучы гарачымі патрыётамі Беларусі, яны аднак не ўпалі ў сепаратызм і засталіся перакананымі інтэрнацыяналістамі. Такое правільнае і глыбокае вырашэнне нацыянальнага і іншых пытанняў тлумачыцца тым, што гоманаўцы адчулі на сабе ўздзеянне марксізма. І сапраўды, яны горача віталі першую рускую марксісцкую арганізацыю «Вызваленне працы» і прысвяцілі ёй асобны артыкул у сваім часопісе. Таму, на нашу думку, «Гоман» нельга лічыць народніцкай групай, бо з яго фактычна пачынаецца развіццё беларускай марксісцкай думкі.

Аўтар адкрыў новыя факты ў рэвалюцыйнай дзейнасці А. Гурыновіча ў Пецярбурзе. Хаця Бр. Эпімаху-Шыпілу была прысвечана першая кніга Р. Семашкевіча (1969 г.), аднак і ў новай працы даследчык не мог абмінуць гэтага выдатнага дзеяча, бо ён быў цэнтральнай фігурай беларускага руху ў Пецярбурзе. Аўтар тут падрабязна разгледзеў яго рукапісную «Беларускую хрэстаматыю», дзякуючы якой да нас дайшлі многія творы беларускай літаратуры.

У кнізе паказана, якое важнае значэнне для Я. Купалы мела яго чатырохгадовае знаходжанне ў Пецярбурзе. Менавіта ў гэты час ён сфармаваўся як вялікі нацыянальны паэт Беларусі. Вельмі слушна палемізуе Р. Семашкевіч з тымі аўтарамі, якія беспадстаўна даводзілі, што Я. Купала не меў нічога агульнага з рэдакцыяй «Нашай нівы», а апошнюю лічылі рэакцыйнай газетай. Але наўрад ці мае рацыю аўтар, калі называе «Гусляр» Я. Купалы зборнікам няпоўных магчымасцей.

Р. Семашкевіч уважліва разгледзеў дзейнасць беларускага навукова-літаратурнага гуртка, арганізаванага пры Пецярбургскім універсітэце ў 1912 годзе. Галоўнае значэнне яго ў тым, што з яго дзейнасці пачалося сталае развіццё беларускай навукі.

Значнае месца ў кнізе адведзена выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца». Аналізуючы шматлікія выданні яе, аўтар зрабіў нямала каштоўныхназіранняў.

Выдатнай з'явай у развіцці беларускай публіцыстыкі быў часопіс «Раніца», адзіны нумар якога выйшаў у Пецярбурзе ў 1914 годзе. Відаць, далейшаму выданню яго перашкодзіла першая сусветная вайна. Аўтары часопіса выявілі глыбокае разуменне задач, якія сталі тады перад беларускай інтэлігенцыяй, і вельмі шкада, што даследчык не зрабіў спробы расшыфраваць іх псеўданімы.

У кнізе ёсць і іншыя прабелы. Так, у ёй не асветлена знаходжанне Цёткі ў Пецярбурзе, нічога не гаворыцца пра ўдзел беларусаў у пецярбургскіх рэвалюцыйных падзеях 1905—1906 гадоў. На нашу думку, не варта было аўтару парушаць храналагічны парадак выкладання матэрыялу. Напрыклад, пра гурток «Круг беларускай народнай прасветы», які ўзнік у 1902 годзе, лепш было б гаварыць перад разглядам знаходжання Я. Купалы ў Пецярбурзе і дзейнасці універсітэцкага гуртка, а не пасля, як гэта зроблена ў кнізе.

Сям-там у даследаванні трапляюцца няўдалыя выразы. Так, нельга на той падставе, што беларускія грамадскія дзеячы, якія не мелі ўласных сродкаў, вымушаны былі дзе-небудзь працаваць, рабіць вывад, што «супрацоўнічаючы з царызмам у адной галіне, яны разбівалі ўстоі царызму ў значна большым плане і маштабе». Далёка не кожную працу ў той час можна назваць супрацоўніцтвам з царызмам. Або такі вывад: «Асаблівасць беларускага руху ў Пецярбурзе ў тым, што ён хоць і адбываўся ў сталіцы Расіі, быў звернуты ўсё ж да беларускага народа». А як жа б ён узнік, калі б не быў звернуты да беларускага народа? Цяжка зразумець і такі сказ: «Выданне «Жалейкі» нанесла суполцы новы, ужо другі сур'ёзны ўдар з боку ўлад». Хто ж нанёс удар: «Жалейка» ці ўлады? Гэтых і іншых нязграбных фармулёвак пры больш уважлівым рэдагаванні кнігі можна было б пазбегнуць.

Магчыма, што, па прыкладу працы Р. Семашкевіча, будуць напісаны даследаванні пра беларускі рух у іншых гарадах Расіі, у прыватнасці, у Маскве, Вільні, Кіеве, Варшаве, Дэрпце, і тады мы будзем мець больш грунтоўнае ўяўленне пра яго характар і маштабы.

**М. ЕРМАЛОВІЧ.**

Р. Семашкевіч. «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, 1971.

# ПАЭЗІЯ І МУЗЫКА

У СНЕЖНІ 1955 года ў Беларускім тэатры оперы і балета адбылася прэм'ера першай беларускай оперы для дзяцей — «Марынка» Р. Пукста. Лібрэта яе напісала паэтэса Э. Агняцвет па матывах уласнай паэмы «Песня пра піянерскі сцяг». На яе ж словы кампазітар Д. Лукас стварыў вакальны цыкл для голасу і фартэпіяна «Поры года», які складаўся з дзевятнаццаці рамансаў, а П. Падкавыраў—кантату для хору, саліста і сімфанічнага аркестра «Піянерскі касцёр міру».

Трэба сказаць, што з імем Эдзі Агняцвет звязаны многія старонкі беларускай музыкі.

На яе тэксты напісан і рад іншых музычных твораў: акапэльных і змешаных хораў, рамансаў і песень для голасу і фартэпіяна, мноства песень для дзяцей. Да вершаў паэтэсы звярталіся кампазітары Л. Абеліёвіч, М. Аладаў, А. Багатыроў, Я. Глебаў, І. Кузняцоў, І. Лучанок, У. Алоўнікаў, С. Палонскі, Я. Цікоцкі, Э. Тырманд, М. Чуркін, М. Шнейдарман і многія іншыя.

У чым «сакрэт» такой папулярнасці паэтэсы сярод творцаў беларускай музыкі? На маю думку, ён заключаецца ў тым, што вершы Э. Агняцвет вылучаюцца не толькі змястоўнасцю, добрым паэтычным густам, але і своеасаблівай напеўнасцю і музычнасцю. Дадам яшчэ, што Э. Агняцвет сама любіць музыку, часта ў сваёй творчасці звяртаецца да чыста музычных тэм. Прыгадаем хаця б яе зборнік «Круглы год», у якім ёсць вершы «Па бетховенскіх мясцінах», «Казкі венскага лесу», «Што схавана ў скрыпцы?», «Піянерская гама» і інш.

Шырока прадстаўлена «музычная тэма» і ў новым зборніку Э. Агняцвет «Жаданне». Так, у вершы «Апасіяната» паэтэса малюе вобраз геніяльнага Бетховена:

Вы дарэмна шукаеце тут
Перазвонаў крыніцы!
Гэта—боль чалавечых
пакут,
Гэта—гул навальніцы
І трывожнага ветру парыў,
І арліныя крыкі.
Гэта—радасць, якую
стварыў
Пакутнік вялікі.

У вершы «Мелодыі Шапэна» Э. Агняцвет выказвае свае ўражанні ад музыкі польскага кампазітара, у якой «скачуць іскры Віслы белапеннай і мазурку скача ўся карчма», гучаць рытмы гераічнага эцюда, адчуваецца балючае жаданне Шапэна зноў пабачыць радзіму.

Надзвычай прывабныя вершы «Скерца» і «Баркарола», а таксама верш «Ронда», у якім пераасэнсоўваецца фальклорна-песенны вобраз беларускай рабіны.

Свайму зборніку Э. Агняцвет надала эпіграф з уласнага верша:

Я веру ў добры сэнс
прыкмет,
І той прыкметай ганаруся,
Што мой, не вельмі ціхі,
свет
Пачаўся тут, на Беларусі.

Гэтым адчуваннем гордасці і любві да роднае краіны прасякнуты лепшыя вершы новага зборніка. Сярод іх трэба назваць такія, як «Беларусі», «Кожнаю сасною», «Паверка», «Як нараджаецца вясна», «Будучыя раёны», «Віцебшчына», «Наваполацкае світанне». У іх паэтэса любуецца прыродай Беларусі, апявае характар яе людзей. Пачуцці ўласнай злітнасці з краінай гучаць у такіх пранікнёных радках:

Калі ўпаду я ў дарозе,—
Сябры мае,
чуткам не верце!
Я прыдарожнаю бярозай
Устану
далёка ад смерці.

А побач з гэтым вершы, звязаныя з падзеямі Айчыннай вайны, поўныя жальбы і смутку. Можна прыгадаць верш «Міша Камінскі»—аб трагедыі Хатыні, а таксама шчырыя і надзвычай уражлівыя вершы «Дзе вы цяпер, мае хлопцы мілыя», «Ліст брату», «Барыс-два», «Маці невядомага салдата».

Не дзіўна таму, што ў зборніку ёсць нямала радкоў, прысвечаных барацьбе за мір, лепшыя ідэалы чалавецтва. Гэта «Хай часцей смяюцца дзеці», «Ветэран», «Вяселле».

У многіх вершах паэтэса ўслаўляе характар, натхнёную працу чалавека-будаўніка. Асобныя з іх прысвечаны нашай моладзі, пра якую Агняцвет піша з вялікай сімпатыяй і заклапочанасцю.

Пра зборнік «Жаданне» можна сказаць, што ён цікавы, багаты па тэматыцы, надзвычай паэтычны і напісаны з сапраўдным майстэрствам. Яго загортваеш з жаданнем новых сустрэч з паэтэсай.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ,**
заслужаны дзеяч культуры БССР.

Э. Агняцвет. «Жаданне». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

# ДЗЕ ПЕСНЯ ЦІХАЯ ЗВІНІЦЬ...

ГЭТАЯ КНІГА, скажу адразу, мяне ўсхвалявала. З першых жа радкоў кранае шчырасць і натуральнасць паэтавых лірычных выказванняў. Ну, як не паверыць, напрыклад, у такое прызнанне К. Кірэенкі:

**Забараніце піць і есці —**
**Я ўсё сцярплю, перажыву.**
**Але на міг не дайце песні—**
**Я і душу сваю парву.**
**Якой бы страшнаю пакутай**
**Жыццё ні ўздумала чарніць—**
**Адно хай мне пакіне:**
**смутак,**
**Дзе песня ціхая звініць...**

Гэтыя радкі з'яўляюцца своеасаблівым пралогам і эпілогам кнігі.

«Кніга ста песень» не такая ўжо і «салідная». У ёй—усяго сто шэсцьдзесят старонак. Але затое амаль на кожнай з іх — песня, і амаль у кожнай гэтай песні б'ецца, пульсуе жывая думка паэта, амаль кожная з гэтых песень сагрэта яго жывым, чалавечым пачуццём,—і гэтыя думкі і пачуцці вабяць, трывожаць, выклікаюць маё, чытацкае, суперажыванне.

**Сто песень... Сто жывых**
**паданняў...**
**Сто дум... І сто адказаў ім...**
**І сто — са ста дарог —**
**жаданняў,**
**І сто пытанняў перад тым...**

Не бяда, што мелодыі песень часам адны і тыя ж, але, тым не менш, іх гучанне рознае — то прызыўна-набатнае, то прыглушана-ціхае, то вясёлкава-радаснае, то лірычна-напеўнае:

**Бунтуе сэрца ў чыстым слове,**
**І мара свеціцца здаля.**
**Я зноў іду к табе на**
**споведзь,**
**Мая любімая зямля...**
**. . . . . . . . . . . .**
**...Не ўдар, не кінь ахвяру ў**
**прысак,**
**А падымі і асвяці.**
**Бо я ж яшчэ тых слоў не**
**высек,**
**З якімі б мог**
**к табе прыйсці...**

Многа розных тэм і праблем закранае паэт, але ўсе яны знітаваны ў адну вялікую тэму — тэму шчырай сыноўняй любві да сваёй Радзімы. Здаецца, выкінь адну са ста песень, і разбурыцца ўся гама стройнай, захапляючай мелодыі, разбурыцца цэльная, праспяваная на адным дыханні гэтая велічная песня любві, у якой і роздум аб сучасным і будучым, і ўспамін ваенных часоў, і звычайны, будзённы чалавечы клопат.

Ніхто не выбірае сабе Радзіму, як не выбіраюць бацьку ці маці. Такога чалавеку не дадзена. Але ўжо адным нараджэннем ён да скону жыцця свайго павінен берагчы аб ёй памяць, аддаваць ёй сваю пяшчоту і любоў, дзе б ні быў, што б ні рабіў. Бацькоўскі парог нельга забыць:

**Парог бацькоўскі мілай хаты,**
**Як ты мне сніўся! Як завеш**
**З тых дзён, калі дыханнем**
**мяты**
**Павёў за пырнік родных меж!**
**. . . . . . . . . . . .**
**Але ва ўсіх турботах плодных**
**Я помніў добра, мой парог,**
**Што гэта ты мяне, мой родны,**
**Вучыў зрабіць свой першы**
**крок.**

От па гэтай, пэўна, прычыне з такой пяшчотай і любоўю гаворыць паэт пра наш родны Сож, пра светлыя сасновыя бары над ім, пра любую сэрцу Беларусь.

Асабліва яскрава праступае ў паэта любоў да роднай зямлі тады, калі ён знаходзіўся ў ЗША. Шчыра і непасрэдна гучыць яго голас, але ў ім многа «смутку і жальбы» ад таго, што «далёка ластаўкі ляцяць». Вершам «Слухайце ластавак» адкрываецца другі раздзел кнігі К. Кірэенкі — «замежны». Праўда, некаторыя з вершаў гэтага раздзела крыху дэкларатыўныя («Пліз», «Я бачыў людзей» і інш.). Усё ж і ў большасці з іх шмат непадробнага хвалявання. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць хоць от гэты верш — «Беларусь з Нью-Йорка»:

**...Беларусь,**
**Як люблю я цябе, ты знаеш,**
**навек,**
**Ты ведаеш, як я цябе**
**шанаваў.**
**Але я не думаў, што мой па**
**табе смутак**
**Будзе такі ж бясконцы, як**
**любоў сама.**
**Я не думаў,**
**Не думаў,**
**Што каб гэта ўсё пазнаць,—**
**Трэба так мала, —**
**Толькі адчуць,**
**Што зямліцы тваёй**
**Пад нагамі**
**Няма..**

Дапамагчы чытачу глыбей зразумець і адчуць гэта—ці так ужо і мала, каб сказаць пэўна: «Кніга ста песень» К. Кірэенкі вартая нашай самай пільнай увагі.

**І. МЯДЗВЕДЗЕЎ.**
Гомельскі раён.

К. Кірэенка. «Кніга ста песень». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

# ДРУГОЕ, ПЕРАПРАЦАВАНАЕ

У КАНЦЫ мінулага года ўкраінскае выдавецтва «Дніпро» выпусціла ў свет кнігу Багдана Чайкоўскага «Незабутня сторінка дружби (Т. Г. Шевченко і білоруська література)». Гэта другое — дапоўненае і перапрацаванае — выданне работы ўкраінскага літаратуразнаўцы, якая мае непасрэдныя адносіны да беларускай літаратуры.

Тэма «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура» і ў беларускім, і ва ўкраінскім літаратуразнаўстве распрацоўваецца даволі актыўна і мае прыкладна 60-гадовую гісторыю (калі лічыць яе пачаткам з'яўленне артыкула Р. Зямкевіча «Тарас Шаўчэнка і беларусы», апублікаванага ў «Нашай ніве» 24 лютага 1911 года). Больш за сотню спецыяльных артыкулаў і паўдзесятка асобных выданняў (брашур і кніг) — вялікі колькасна паказчык інтэнсіўнасці распрацоўкі гэтай складанай тэмы, якая ўсё ж яшчэ далёка не вычарпана, не асветлена ўсебакова і з адпаведнай глыбінёй.

Ініцыятыва ў вывучэнні цесных сувязей вялікага ўкраінскага Кабзара з Беларуссю, яе культурай і літаратурай належыць беларускім літаратуразнаўцам і пісьменнікам. Услед за імі ў асвятленне гэтай важнай праблемы ўключыліся і ўкраінскія даследчыкі, сярод якіх віднае месца займае аўтар рэцэнзуемай кнігі.

Упершыню кніга Б. Чайкоўскага з'явілася ў тым жа выдавецтве «Дніпро» ў 1964 годзе. Яна не была ацэнена крытыкай аднадушна — выклікала і станоўчыя, і адмоўныя водгукі. Апошнія былі звязаны ў асноўным з нацяжкамі і неабгрунтаванымі сцвярджэннямі аб уплыве Шаўчэнкі на тых ці іншых беларускіх пісьменнікаў. Гэтыя пралікі ў асноўным ліквідаваны ў новым выданні, у сувязі з чым яго сапраўды трэба прызнаць не толькі дапоўненым, але і перапрацаваным. Дапаўненне ішло галоўным чынам ушыркі — за кошт прыцягнення матэрыялаў не толькі з галіны літаратуры і фальклору, але і жывапісу, і іншых відаў мастацтва.

Кніга, нягледзячы на некаторае шматслоўе, чытаецца лёгка. Яна вабіць не толькі актуальнасцю тэмы, багаццем матэрыялу, але і жывасцю, вобразнасцю выкладання. Аўтар добра ведае матэрыял і свабодна аперыруе ім.

Б. Чайкоўскі дэталёва спыняецца на знаёмстве Шаўчэнкі з Беларуссю, жабрацкім жыццём яе працоўнага народа, фальклорам, літаратурай і аматарскім жывапісам. Аўтар выкарыстоўвае не толькі рэальныя факты, а і робіць шматлікія здагадкі. Праўда, часам гэтыя здагадкі не маюць рэальнай асновы. Напрыклад, Б. Чайкоўскі мяркуе, што Шаўчэнка «мог ведаць» паэму «Тарас на Парнасе», у што «няцяжка паверыць» толькі на той падставе, што ўкраінскі паэт быў знаёмы з роднаснай ёй «Энеідай навыварат». У такім жа плане сцвярджаецца, што, магчыма, украінскі паэт быў знаёмы з творчасцю Паўлюка Багрыма, а таксама з творчасцю Яна Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча і некаторых іншых беларускіх пісьменнікаў — сучаснікаў Шаўчэнкі.

Іншы раз Б. Чайкоўскі спачатку выказвае здагадку, а затым на аснове яе робіць ужо катэгарычнае сцвярджэнне. Так, ён падрабязна гаворыць аб магчымасці знаёмства Кастуся Каліноўскага з украінскім Кабзаром, хаця ў пацвярджэнне гэтага не можа прывесці важкіх фактаў ці дакументальных матэрыялаў. Затым ён ужо з упэўненасцю заяўляе, што К. Каліноўскі (у чым «сумнявацца не прыходзіцца») добра ведаў жыццё і творчасць Шаўчэнкі і без агаворак канстатуе ўздзеянне апошняга на публіцыстыку і паэзію беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата (дарэчы, гэта думка не новая, а таму трэба было б зрабіць адпаведныя спасылкі, якія і ў некаторых іншых выпадках адсутнічаюць). І, нарэшце, нечакана сцвярджаецца, што К. Каліноўскі ўваходзіў у «кола знаёмых Шаўчэнкі, якія цяснейшым чынам звязалі сваю долю з доляй беларускага народа».

У другім раздзеле кнігі аўтар гаворыць аб блізкасці гістарычнага лёсу, культуры і літаратуры ўкраінскага і беларускага народаў, аб тым, што даволі часта іх дзеячы ўзаемна звярталіся да фальклорнага і літаратурнага багацця беларусаў і ўкраінцаў. Нельга не згадзіцца з Б. Чайкоўскім у тым, што «не многа знойдзецца ў свеце краін-сясцёр, лёс працоўнага люду якіх так высакародна быў бы асвечаны сумесна пралітай крывёю ў барацьбе супраць агульнага ворага, вусная творчасць якіх так цесна перапляталася б сваімі карэннямі, мастацкая літаратура якіх стала б такой блізкай і роднай для абодвух народаў...» І хаця такія экскурсы ў гісторыю нашых народаў прамых адносін да тэмы не маюць, яны ўсё ж дапамагаюць яе раскрыццю, як бы рыхтуючы чытачоў да ўспрымання асноўнага прадмета.

Уплыву Т. Р. Шаўчэнкі на беларускую літаратуру, фальклор і жывапіс прысвечана другая палова (тры раздзелы) рэцэнзуемай кнігі. Тут разглядаецца творчасць Ф. Багушэвіча, Янкі Лучыны, А. Гурыновіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, а таксама Янкі Журбы, Канстанцыі Буйло, А. Гурло, Паўлюка Труса, Максіма Танка, Янкі Брыля, Піліпа Пестрака, Кандрата Крапівы, Рыгора Нягая і некаторых іншых. На жаль, не заўсёды меркаванні і высновы даследчыка пераканаўчыя і слушныя. Так, дванаццаць старонак, прысвечаных творчасці Янкі Лучыны, не вельмі пераконваюць нас у тым, што гэты беларускі паэт непасрэдна вучыўся ў Шаўчэнкі, свядома арыентаваўся на яго. Тое ж трэба сказаць і пра А. Гурыновіча, а таксама пра такіх пісьменнікаў, як Фелікс Тапчэўскі, Альгерд Абуховіч і Марыя Косіч.

Яўным перабольшаннем з'яўляецца сцвярджэнне аўтара аб тым, што «з вопыту Шаўчэнкі беларускія паэты — заснавальнікі рэалізму ў родным пісьменстве — пачэрпнулі ідэю яднання літаратур рускага, украінскага, беларускага і польскага народаў». Гэта ідэя была вядома беларускім пісьменнікам і да Шаўчэнкі.

Гаворачы аб непасрэдным уплыве Тараса Шаўчэнкі на многіх беларускіх пісьменнікаў, Б. Чайкоўскі ў радзе выпадкаў недастаткова або і зусім не аргументуе сваіх сцвярджэнняў. Гэта тычыцца не толькі дарэвалюцыйнага, але і савецкага часу. Напрыклад, пра ўздзеянне Шаўчэнкі на П. Пестрака сказана ў кнізе вось што: «Зачараваны паэзіяй «Кабзара», Піліп Пестрак адчуў на сабе глыбокі ўплыў яе аўтара, што адбілася як на тэматыцы, так і на мастацкай манеры яго творчасці».

Заканчваецца работа Б. Чайкоўскага кароткім аглядам беларускіх мастацкіх твораў, прысвечаных Шаўчэнку, і характарыстыкай стану беларускага савецкага шаўчэнказнаўства. Гэта ўдала завяршае кнігу. Дарэчы ў ёй і бібліяграфія, якая падае асноўныя работы на тэму «Тарас Шаўчэнка і Беларусь». Прыемна, што ў ёй пераважаюць беларускія крыніцы.

П. АХРЫМЕНКА.

Б. Чайкоўскі. «Незабыўная старонка дружбы (Т. Р. Шаўчэнка і беларуская літаратура)». На ўкраінскай мове. Выдавецтва «Дніпро». Кіеў, 1971.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ



Малюнкі Б. Забарава да кнігі А. Пысіна «Да людзей ідучы», якая выходзіць у выдавецтве «Беларусь».

# ДЛЯ СТУДЭНТАЎ І НАСТАЎНІКАЎ

Выйшаў у свет зборнік артыкулаў беларускіх мовазнаўцаў «Лінгвістычныя даследаванні», прысвечаны актуальным і маладаследаваным праблемам славянскага мовазнаўства. Найбольш шырока прадстаўлены ў зборніку артыкулы, у якіх даследуецца старабеларуская і сучасная беларуская лексіка.

Беларуска-ўкраінскія моўныя сувязі ў данацыянальны перыяд разглядаюцца ў артыкуле У. Навічэнкі «Украінская лексічная варыянтнасць у старабеларускай пісьменнасці». З'яўленне ў старабеларускай лексічнай сістэме ўкраінізмаў тлумачыцца гісторыяй літаратурна-пісьмовай мовы Беларусі, уплывам на яе знешніх і ўнутраных фактараў у той час, калі беларускія землі і большая частка ўкраінскіх зямель знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай. У артыкуле на багатым фактычным матэрыяле паказваецца пранікненне спецыфічна ўкраінскіх слоў або іх форм у пісьмовыя помнікі Беларусі. Пранікненне гэтае было адносна абмежаваным, бо ў беларускай мове ў той час існавалі свае нармалізаваныя лексічныя сродкі, якімі і папаўнялася тагачасная літаратурна-пісьмовая мова Беларусі.

Разгляду старабеларускай лексікі прысвечаны таксама артыкулы І. Шадурскага і Н. Гілевіч. У артыкуле І. Шадурскага «Тэматычная група слоў са значэннем «спадчынная зямля» ў мове старабеларускіх помнікаў» разглядаецца пэўная група лексічных адзінак, якія абазначалі зямельна-маёмасныя адносіны старажытнай Беларусі. На аснове структурна-семантычнага аналізу назваў спадчынных землеўладанняў аўтар гаворыць аб фарміраванні пэўнага словаўтваральнага тыпу, які падтрымліваўся шырокай аналогіяй з прадуктыўнай у старажытнасці марфалагічнай мадэллю «імянная аснова + суфіксы -ин-а (-чин-а, -щин-а), -щизн-а (-чизн-а, -щизн-а)». Па гэтай мадэлі і развіваліся шматлікія лексічныя ўтварэнні ў працэсе станаўлення і развіцця беларускай мовы. Яна, гэтая мадэль, даволі прадуктыўная і ў сучаснай нашай мове (Барысаўшчына, Мядзельшчына і г. д.). Н. Гілевіч у артыкуле «З гісторыі павіннасна-службовай тэрміналогіі ў беларускай мове» акцэнтуе ўвагу на даследаванні багатага і разнастайнага моўнага пласта, які ў лексічнай сістэме старажытнай беларускай мовы займаў значнае месца. Даследчыца ў першую чаргу разглядае семантычную характарыстыку гэтага пласта, асаблівасці лексічнага ўжывання і спосабы словаўтварэння.

Цікавыя і змястоўныя назіранні ў артыкуле А. Мурашка «Сірэнь ці бэз?» Але, нам здаецца, аўтар не пераконвае нас, калі сцвярджае, што «бэз», з'яўляецца больш характэрным, родным для славянскіх моў, чым «сірэнь», якое не мае пашырэння ў славянскіх мовах.

Наводзіць на роздум артыкул І. Германовіча «Развіццё беларускай тэрміналогіі чыгуначнага транспарту», прысвечаны таксама лексіцы. Паралелізм тэрмінаў (жалезніца, жалезная дарога, чыгунка), які назіраўся ў друку і мастацкай літаратуры раней, зараз уніфікаваны — агульнапрынятым тэрмінам з'яўляецца «чыгунка». Аўтар разглядае і другі дублетны тэрмін: машына, цягнік, поезд, і падкрэслівае, што «зараз больш ужывальным з'яўляецца цягнік». Думаецца, што гэта не зусім так.

Звяртае на сябе ўвагу артыкул М. Шакуна «Некаторыя заўвагі адносна дыялектызмаў у крыніцах гісторыі беларускай літаратурнай мовы», у якім тлумачацца пытанні ўзаемасувязі дыялектызмаў і літаратурнай мовы, выкарыстанне і вызначэнне групы дыялектнай лексікі ў слоўніках.

У артыкуле «Дыялектная лексіка ў творах Цішкі Гартнага» М. Абабурка праводзіць супастаўленне дыялектызмаў з друкаванымі крыніцамі і з некаторымі беларускімі гаворкамі. Развагі яго ў многім цікавыя. Аднак пагадзіцца з яго сцвярджэннем, што Ц. Гартнага нельга назваць майстрам мастацкай прозы (маўляў, пісьменнік падаваў «сыры» матэрыял, не апрацоўваў яго), пагадзіцца нельга. Справа ў тым, што ў тыя часы дыялектная лексіка выкарыстоўвалася ў сувязі з пошукамі неабходных сродкаў узбагачэння беларускай літаратурнай мовы, і зварот пісьменніка да народна-гутарковай мовы быў з'явай станоўчай.

Некалькі артыкулаў у зборніку прысвечана беларускай і рускай фразеалогіі: «Матэрыялы да слоўніка сучаснай беларускай народнай фразеалогіі» Е. Мяцельскай і Я. Камароўскага, «Выкарыстанне крылатых выразаў у раманах І. Ільфа і Я. Пятрова «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля» І. Сахаравай, «Эцюды па лексіка-фразеалагічнай сінаніміі» С. Цаленчука.

Шмат месца ў зборніку аддадзена даследаванням такога важнага і істотнага раздзела граматыкі, як словазлучэнне.

І, урэшце, некалькі артыкулаў зборніка прысвечаны даследаванню лексікі шляхам супастаўлення яе ў блізкароднасных славянскіх мовах пры перакладзе літаратурна-мастацкіх твораў з адной мовы на другую.

Зборнік «Лінгвістычныя даследаванні» напісаны на высокім метадалагічным, тэарэтычна-лінгвістычным узроўні. Ён можа быць выкарыстаны лінгвістамі, якія займаюцца даследаваннем адпаведных раздзелаў славянскага мовазнаўства, выкладчыкамі вну і сярэдняй школы, аспірантамі, студэнтамі філалагічных факультэтаў.

М. СТЭЛЬМАХ.

«Лінгвістычныя даследаванні». Выдавецтва БДУ імя. У. І. Леніна. Мінск. 1971.

# ЗЕРНЕ ПАЭЗІІ

Яшчэ тады, калі на аснове рупна сабраных у нашых беларускіх вёсках прыказак пісалася кандыдацкая дысертацыя, я меў магчымасць радавацца шчаслівым знаходкам даследчыка, а заадно і меркаваць, што з часам гэта будзе вельмі цікавая кніжка.

І вось — кніжка. З хваляваннем разгортваю яе. І захапляюся навуковай грунтоўнасцю, дакладнасцю слова, сцісласцю радка, стылявой стройнасцю. Першыя ж старонкі вызначаюць асноўную вартасць даследавання.

Паэтыка беларускіх народных прыказак дагэтуль не мела сваіх даследчыкаў. Невялікія і нешматлікія працы вучоных абмяжоўваліся галоўным чынам разглядам ідэйна-тэматычнага зместу прыказак. М. Янкоўскі паставіў перад сабой задачу раскрыць сістэму выяўленчых сродкаў, якімі так багаты гэты жанр мастацкай народнай творчасці. І вырашыў яе паспяхова і арыгінальна.

У кнізе на шматлікіх прыкладах грунтоўна разглядаецца асацыятыўнасць прыказак, іх эстэтычна-вобразная прырода, інтанацыйна-рытмічны і гукавы лад. Даследчык паказвае ўзаемадзеянне структурных адзінак прыказак, аналізуе характар іх вобразаў.

«Ёсць творы вялікай паэтычнай сілы і маштабнага грамадска-філасофскага гучання, — піша даследчык. — Ёсць «Фаўст» Гётэ і «Вайна і мір» Талстога. Ёсць «Новая зямля» Коласа і несмяротныя паэмы Купалы. У адным радзе з лепшымі мастацкімі здабыткамі чалавецтва стаіць і прыказкавая паэзія».

Так, гэты мініяцюрны па памерах жанр — прыказка — багаты сваім эстэтычным зместам, ён мае глыбокі падтэкст, здольны ў некалькіх словах разгарнуць перад уяўленнем шырокае мастацкае палатно, бо народ-творца ў прыказцы заўсёды пакідае вольную прастору для шырокага лёту чалавечай фантазіі. Напамінаючы, што «не так лёгка будзённа-празаічную з'яву «падцягнуць» да ўзроўню мастацкага факта», аўтар даследавання пераканаўча даказвае, што «прыказкавая паэзія робіць гэта і хораша і паспяхова».

Прыказку «Спытае старасць, што маладосць рабіла» ўтварылі ўсяго пяць слоўцаў. Самых звычайных, будзённых. Але ж які маланкава-нечаканы залом думкі! Як ёмка схоплены тут полюсы чалавечага жыцця адным росчыркам — «спытае!»

Такая яна — прыказка, такія яе мастацка-творчыя здольнасці. Нездарма ж некалі Л. Талстой прапанаваў вучням Яснапалянскай школы напісаць цэлую аповесць на тэму прыказкі «Лыжкай корміць, а сцяблом вока коле».

М. Янкоўскі адрасуе сваю кніжку аспірантам, настаўнікам, студэнтам-філолагам, людзям, блізкім да літаратуры. Безумоўна, яго праца з'явіцца добрым дарадчыкам для многіх. Але тут хочацца звярнуць увагу на другі, не менш каштоўны бок кнігі: у якасці прыкладаў у ёй змешчана некалькі тысяч прыказак, непасрэдна сабраных самім аўтарам. Прычым, прыказак малавядомых, дасціпных, нярэдка ўразлівых. Так што кола чытачоў значна пашыраецца, кніжка знойдзе свайго прыхільніка ў кожным, хто любіць і шануе трапнае слова беларускага народа. На жаль, непрыемна здзіўляе тое, што выдавецтва «Вышэйшая школа» так паскупілася на тыраж — выпушчана ўсяго паўтары тысячы экземпляраў гэтага карыснага даследавання і цудоўнага падарожжа ў краіну дасціпнасці...

І. КІРЭЙЧЫК.

М. А. Янкоўскі. «Паэтыка беларускіх прыказак». Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск, 1971.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Рыгор ЛАЗУРКІН

## ЧАМУ МАЛА ЖЫВУЦЬ САТЫРЫКІ?

Я знемагаю ад нявырашанага пытання: чаму так мала жывуць сатырыкі? Усім жа добра вядома, што смех падаўжае жыццё. Кажуць нават, што гадзіна смеху раўназначна паўшклянцы смятаны. Дык калі смех падаўжае жыццё, а смех для сатырыкаў — хлеб іх надзённы, то яны немінуча павінны былі трапіць у лік даўгажыцеляў. А назавіце мне хоць аднаго, які пражыў бы так гадкоў сто з гакам! Што, не можаце? І не старайцеся — не ўспомніце.

А хочаце ведаць, чаму гэтая праблема так мяне зацікавіла? Бачыце, не так даўно, з паўгода назад, ступіў і я на вузкую і стромую сцяжынку сатыры. З паўгода ўсяго, а нешта ў апошні час стала сэрца ныць. «І чаго яно, пракля-тае, ные? — пачаў я непакоіцца. — І калі гэта пачалося? А-а-а, пэўна з-за таго алкаголіка Сівухіна...»

Я назваў яго ў фельетоне адпетым п'яніцам.

— Калі адпяюць, тады і буду адпеты! — грымеў Сівухін на ўсю рэдакцыю. — І ўвогуле яшчэ невядома, хто з нас сканае раней!

Першы раз у жыцці бачыў я такога раз'юшанага чалавека. З таго часу і пачало сэрца маё ныць...

Вось неяк думаю я над праблемамі жыцця сатырыкаў і рассеяна гляджу ў акно. Раптам бачу — да маёй хаты набліжаецца мужчына. Углядаюся — загадчык лазні, дзядзька Нупрэй. Але чаму ж ён, мужчына яшчэ дзябёлы, з кійком хадзіць стаў? Ды і нясе той кіёк неяк дзіўна—нібы стрэльбу, наперавес. Я падскочыў і на ўсякі выпадак зашчапіў дзверы. І своечасова—праз хвіліну пачаўся такі грукат, аж вокны зазвінелі!

«Значыцца, мой новы фельетон надрукавалі!»

Друкуюць мае фельетоны і цяпер... Але вось сэрца ўсё больш і больш ные, а я ўсё менш і менш смяюся. Які тут смех! Адно радуе — добры замок у свае дзверы ўставіў: не падвядзе...

Анатоль ПРАНІШНІКАЎ

## РЫГОРАВА КАХАННЕ

**Прыйшло каханне да Рыгора.**
**Жыў-быў хлапец—не ведаў гора,**
**І раптам на табе — аднойчы**
**Прачнуўся неяк сярод ночы,**
**І прыгадалася такое,**
**Што з той пары няма спакою.**

**Але з каторай парадніцца!**
**Ды не на дзень і не на два,**
**Тут трэба, каб не памыліцца.**
**Ад гэтых думак галава**
**У хлопца — кругам. Дні за днямі**
**Бягуць, нясе цярпення крыж.**

**Хіба што з Ленай — не. А з Яняй!**
**І зноў не тое. Дзе знайсці ж,**
**Як адшукаць, каб назаўсёды,**
**Каб папалам усё дзяліць...**
**Марына! Не, не тыя годы —**
**Крыху старая, падвядзе,**
**А Галя дужа маладая —**
**Глядзіш, пакіне у бядзе.**

**Рыгор ішоў, як воўк па следу,**
**Шукаў, настойліва шукаў...**
**Пакуль яго аднойчы... дзедам**
**Хлапчук суседскі не назваў.**

М. ДУБОЎСКІ

## АМАТАРЫ

Сустрэліся на тралейбусным прыпынку старыя знаёмыя, разгаварыліся. Спачатку пра справы, здароўе, а потым адзін з іх пытае:

— Ну, што, Максім, глядзеў учора?

— А як жа!

— От было прадстаўленне — дух займала!

— І не кажы, Іване, вышэйшы клас!

— А якая грацыя, якая плаўнасць рухаў!

— Сапраўды, адчуваецца школа.

— А калі шайба ў Недаманскага...

— Што-што?! Вы пра што гэта?

— Як пра што? Пра хакей у Празе!

— А я — пра ўчарашнюю прэм'еру ў балеце!



У акне—вясна.





Мал. М. КАРАВКО.

Януш АСЭНКА

## ТРУБА

— Гэй! Што ты тут робіш з гэтай трубой?

— Як што? Прыйшоў працаваць.

— Іменна тут?

— Канечне. Так намечана на плане.

— Гм. А што ты будзеш рабіць?

— Трэба вось закапаць гэтую трубу.

— Дзіўна.

— Чаму?

— Бо я таксама павінен тут працаваць. Зірні на мой план.

— Сапраўды. А што ты павінен рабіць?

— Выкапаць трубу.

— Гэтую?

— А што, ёсць другая?

— Не, няма. Мне таму і сказалі, што я павінен закапаць тут трубу, бо яе не хапала.

— А мне сказалі выкапаць, бо яна не патрэбна.

— Сказалі, дык сказалі. Загад трэба выконваць.

— Канечне. Давай пачынаць.

— Зараз. А хто павінен пачынаць?

— Ну, бадай, мы абодва.

— Абодва не можам. Калі я не закапаю трубу, то ты яе не выкапаеш.

— Сапраўды. Тады закопвай.

— А ты будзеш глядзець?

— Пачакаю.

— Мне здаецца, што тут нешта не ў парадку. Табе і так трэба выкапаць яму, каб дастаць з яе трубу.

— Тады ты выкапай яму, я пакладу туды трубу, а ты яе дастанеш.

— Э, не. Я буду капаць, а ты адпачываць? Зрэшты, я хачу выканаць загад дакладна: мне трэба трубу выкапаць, а не дастаць з ямы. А табе трэба закапаць. Давай, пачынай.

— Добра. Але можа мы разам выкапаем гэтую яму?

— Навошта?

— Каб пакласці трубу. Гэта значыць, я пакладу, а потым закапаем трубу разам, а затым зноў разам адкапаем і ўрэшце закапаем яму.

— Штосьці мне ў гэтым не падабаецца.

— Што?

— Ды тое, што будзем вось так разам капаць, закопваць, выкопваць? Няма сэнсу.

— Гм. Дык што тады будзем рабіць?

— Ва ўсякім разе працаваць, а не балбатаць.

— Правільна. Пагаворым пасля работы. І так колькі часу змарнавалі.

— Але я тут не вінаваты. У мяне ўсё ў парадку.

— У мяне таксама.

— У цябе — якраз не. Мне трэба выкапаць трубу, а я не магу гэтага зрабіць, бо яе там няма. Ты яе не закапаў.

— Я закапаў бы, але думаю, лепей было б гэта зрабіць разам.

— Нам загадалі працаваць разам ці асобна?

— Ну, асобна.

— Вось бачыш. Мне трэба трубу выкапаць. Дык давай закопвай яе.

— Паслухай. У мяне ідэя. Табе загадалі выкапаць трубу і прынесці яе?

— Ну.

— Дык навошта капаць? Я табе аддам трубу — бяры.

— Як жа так? Мне трэба яе выкапаць. Не, так будзе няправільна. Ці не скажуць, што мне даюць грошы задарма?

— Улічваецца ж перанос трубы.

— Так то яно так, але...

— Не будзем спрачацца. Можа, гэтай трубы ўжо чакаюць.

— Магчыма. Ну, што ж... Давай трубу. Ай, якая яна цяжкая.

— Такая, пэўна, як трэба.

— Ну, добра. Але другі раз бяры лягчэйшую.

Пераклаў з польскай
Ул. СТРУМІЛА.

## МІМАХОДЗЬ

Навуковая вага памагала трымацца на паверхні.

**У. Траццякоў.**

□

— Забярыце свой рукапіс і не смяшыце людзей, — сказаў гумарысту рэдактар.

Таленавітыя пісьменнікі таксама перапісвалі творы. Толькі — уласныя.

У раздзеле, які называўся «Крыху гумару», гумару было сапраўды крыху.

**А. Махнач.**

□

Разумеў жыццё як пераадольванне цяжкасцей. Таму і ствараў іх каму толькі мог.

**С. Кухарчук.**

□

Правіл для яго не існавала з таго часу, як ён даведаўся пра магчымасць выключэнняў.

У кожнага спевака ёсць права голасу. А голас?

«Б'юся аб аклад».

**Д. Палонскі.**


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 03183

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62 аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.